Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 000.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 1 снежня 1998 г. № 129 (521) Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Курс Пракаповіча

**У мінулую суботу многія пункты абмену валюты абнавілі свае цэннікі. Новы курс скупкі склаў ад 185 да 210 тысяч рублёў.**

Нацыянальны банк Беларусі дазволіў шасці буйнейшым банкам скупляць валюту ў насельніцтва па рынкавым курсе. Але 95 працэнтаў набытай валюты банкі мусяць прадаваць Нацбанку. Гэта значыць, што з кожнай сотні долараў, здадзенай у пункт абмену валюты, для продажу насельніцтву застаецца толькі пяць «баксаў». Але і гэтую «пяцёрку» не здолеюць набыць аматары пастаяць у чарзе ля «абменнікаў».

Эксклюзіўнае права на набыццё валюты ў абменных пунктах атрымалі толькі тыя грамадзяне Беларусі, хто выязджае за мяжу на лячэнне або на пахаванне сваяка. Пры гэтым трэба прад'явіць дакументы, якія пацвярджаюць ваша права набыць валюту: медычнае накіраванне ў замежную клініку або завераную тэлеграму, што ваша цешча Марыя Іванаўна з Кіева сапраўды памерла. Усе астатнія могуць не турбавацца: валюту ім не прададуць.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## «З'есці мяса мы паспеем»

**У ПЯТНІЦУ** Аляксандр Лукашэнка заявіў на нарадзе свaім «штабістам»: *«Я вам катэгарычна забараняю без майго ведама падымаць цэны. Ніякіх скачкоў на 15, 20, 30 працэнтаў быць не павінна».*

Ён папярэдзіў кіраўнікоў абласцей аб персанальнай адказнасці за цэны на спажывецкім рынку, у тым ліку на імпартныя тавары, паколькі яны такія, што *«забяспечваюць да 400 працэнтаў рэнтабельнасці для жулікаў і пастаўшчыкоў».*

Наконт чэргаў за прадуктамі Лукашэнка сказаў: *«Хоціць усім і малочных, і мясных прадуктаў. Мы яшчэ рэзервы не разбазаравалі. Яны ў нас значна большыя, чым у мінулым годзе. Але напярэдзе зіма, і рэзервы нам пачынаць нельга. З'есці гэта мы заўжды паспеем».*

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**




*Чарга ў прадуктовы магазін на вул.Кірава ў Мінску за пяць хвілінаў да адкрыцця крамы.*

## Э.Шродтэр: «Не варта мяне баяцца»

**ДЭПУТАТ** Еўрапарламента Элізабэт Шродтэр усё ж дабралася да Мінска. Нагадаем, што ў мінулы аўторак беларускія ўлады спачатку адмовілі ёй у візе для ўезду ў нашую краіну, дзе яна збіралася ўдзельнічаць у міжнароднай канферэнцыі. З прычыны гэтай адмовы ў Брусэлі разразіўся скандал. У выніку ўжо праз дзень з беларускай амбасады патэлефанавалі ў офіс Шродтэр і паведамілі, што яна «хоць зараз» можа атрымаць візу ў Беларусь.

З Элізабэт Шродтэр гутарыць наш карэспандэнт

**— Спадарыня Шродтэр, з кім вы размаўлялі пра візу?**

— З беларускім паслом у Бельгіі сп.Лабуновым. Ён са шкадаваннем паведаміў, што нічога не можа для мяне зрабіць. Мне падалося, ён быў бы рады іншаму рашэнню з Мінска.

**— Вам патлумачылі прычыну?**

— Ні слова.

**— Якой была вашая рэакцыя?**

— Натуральна, я спачатку абурылася, але потым узяла сябе ў рукі і пачала інфармаваць пра гэта ўсіх, каго магчыма. Сваіх калегаў у Еўрапарламенце, журналістаў, у тым ліку і беларускіх. Дарэчы, яны спрацавалі вельмі салідарна і аператыўна.

**— Як было расцэненае ў Еўрапарламенце тое, што вам адмовілі ў візе?**

— У гісторыі Еўрапарламента ўпершыню адбываецца такое, каб дэпутату не давалі візу ў краіну, якая дамагаецца паляпшэння адносінаў з Еўрасаюзам. Гэта, канешне, нонсэнс. Ужо раніцай у сераду я выступіла ў камітэце па міжнародных справах і мела гутарку з прэзідэнтам Савета міністраў Еўрасаюза. Выпадак быў расцэнены як надзвычайнае здарэнне. Усе выказвалі абурэнне і заяўлялі, што гэтым крокам Беларусь значна ўскладніць свае адносіны з Еўропай. Ва ўсякім разе, выказваўся сумнеў у тым, ці варта Еўрасаюзу рабіць захады, каб пераадолець самаізаляцыю вашай краіны.

**— Вы часта бываеце ў Мінску, добра ведаеце сітуацыю тут, і таму не дзіўна, што вашыя выказванні адносна беларускіх уладаў не вельмі кампліментарныя. Ці не ў гэтым прычына вашых «прыгодаў» з візай?**

— Сапраўды, я заўсёды прынцыпова ацэньваю дзеянні вашых уладаў. Але я толькі назіральнік за вашай сітуацыяй, і таму не думаю, што мяне варта так баяцца.

**— Чаму ж тады вам хацелі адмовіць у візе?**

— Хутчэй за ўсё гэта была рэакцыя на рашэнне Еўрасаюза не выдаваць візы членам вашага ўрада і адміністрацыі прэзідэнта.

**— Калі гэта так, чаго ж вы абураецеся? Наша кіраўніцтва скажа, што вы самі пачалі «візавую» вайну.**

— Не, рашэнне Еўрасаюза не выдаваць візы «штабу Лукашэнкі» стала адказам на канфлікт у Драздах, а ён цалкам на сумленні беларускага боку. І канфлікт гэты нявырашаны дагэтуль, прычым выключна па віне Беларусі. І ўцягваць дэпутатаў Еўрапарламента ў яго бессэнсоўна. Вашым уладам хапіла аднаго дня, каб гэта зразумець і выдаць мне візу.

**— А папрасілі прабачэння?**

— З афіцыйных прадстаўнікоў ніхто не сказаў мне ні слова прабачэння. Ні ў Брусэлі, ні тут, у Мінску.

*Гутарыў*
**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Дай долар!

**У Беларусі няма валюты. Дзяржава імкнецца любым чынам (законным альбо не) спагнаць, выпрасіць, купіць як мага больш грашовых знакаў з партрэтамі амерыканскіх прэзідэнтаў.**

### Прадайце...

У мінулую пятніцу ўсе беларускія банкі атрымалі тэлеграму ад старшыні Нацбанка Пятра Пракаповіча з новымі правіламі скупкі-продажу валюты. Нацбанк нарэшце дазволіў банкам (хоць і часова — толькі ў перыяд з 28 лістапада да 10 студзеня наступнага года) набываць валюту па *«курсе, што складваецца на валютным рынку на падставе попыту і прапановы»* — г.зн., па рынкавым курсе. Але з абавязковай умовай потым прадаваць амаль усе долары яму, галоўнаму банку краіны.

Нацбанку не шкада рублёў — ён заўсёды можа надрукаваць яшчэ, «для патрэбаў эканомікі». А вось з доларамі цяжэй — іх так проста не надрукуеш, а зарабляць валюту на знешніх рынках Беларусь не можа — не навучылася.

### «Баксы» на стол!

Лепшыя сілы беларускай міліцыі пастаўленыя на ногі, каб прыняць удзел у шырокамаштабнай аперацыі «Валюта». Пераапранутыя супрацоўнікі праваахоўных органаў штодня займаюць свае пасты ля абменных пунктаў і падпільноўваюць «здабычу». Галоўная задача — затрымаць як мага больш людзей з валютай у кішэні. Нарваўшыся на такога падсаднога «валютчыка», вам давядзецца развітацца са сваімі грашыма.

Як вядома, за парушэнне прэзідэнцкага дэкрэта аб валютных аперацыях міліцыя можа канфіскаваць усю валюту і беларускія рублі, што былі ў затрыманага, а потым яшчэ і аштрафаваць на 50 «мінімалак».

Прывяду даволі красамоўны прыклад «валютнай спекуляцыі», такіх выпадкаў — безліч. 24-гадовы вадзіцель прыватнай фірмы Віталь К. ішоў мімаходзь аднаго з «абменнікаў». Убачыўшы «валютчыка», запытаўся, які сёння курс. Гэтага было дастаткова, каб «валютчыкі» завезлі яго ў пастарунак, абшукалі, сканфіскавалі 25 долараў і паўтара мільёна рублёў, што былі пры сабе, а потым яшчэ выпісалі штраф 17,5 мільёна.

Такім чынам, дзяржава атрымала 25 долараў у якасці «падарунка» ад аднаго асобна ўзятага свайго грамадзяніна.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Васіль Старавойтаў сядзіць у клетцы

*Учора пачаўся суд над былым кіраўніком «Рассвета»*

У Кіраўску Магілёўскай вобласці пачаўся судовы працэс над былым кіраўніком «Рассвета» Васілём Старавойтавым і двума яго былымі падначаленымі Аляксандрам Еўстратавым і Алегам Шапавалавым. Суддзя Надзея Чмара пачала зачытваць абвінаваўчае заключэнне. Следства ў 50 тамах гэтай справы сцвярджае, што двойчы герой сацыялістычнай працы стварыў разам з падначаленымі злачынную групоўку і сістэматычна рабаваў дзяржаву. Таксама Старавойтаву інкрымінуюць спробу даць хабар, незаконнае захоўванне зброі ды іншыя грахі. Максімальнае пакаранне, якое пагражае былому старшыні «Рассвета» — 15 гадоў турмы.

Абарона Старавойтава, якую прадстаўляюць адвакат Вера Страмкоўская і грамадскі абаронца ад Хельсінкскага камітэта Гары Паганяйла, звярнуліся ў суд з двума істотнымі хадайніцтвамі. Адвакаты прасілі ўлічыць 74-гадовы ўзрост Васіля Старавойтава і стан яго нагага здароўя. Нядаўна ў спецтурме КДБ ён перанёс інсульт. Вера Страмкоўская прасіла суд выпусціць Старавойтава пад падпіску аб нявыездзе. Таксама прагучала хадайніцтва аб разглядзе ў адным працэсе таксама і справы былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава. Абарона даказвала, што справы Лявонава і Старавойтава раз'яднаныя беспадстаўна, што яны маюць адзін і той жа эпізод, вакол якога пабудавана ўсё абвінавачванне. Хадайніцтвы адвакатаў суд адхіліў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Клімаў пабачыў жонку і дачку

**Таццяна Клімава на мінулым тыдні сустрэлася са сваім мужам, дэпутатам Андрэем Клімавым, які ўжо дзесяты месяц знаходзіцца ў мінскім следчым ізалятары.**

На спатканне следчы дазволіў прывесці малодшую дачку Клімавых Лену, у якой акурат быў дзень нараджэння — 27 лістапада ёй споўнілася чатыры гады. Сустрэча праходзіла пад назіраннем двух канваіраў.

Дэпутат і бізнесмен не змяніў сваёй пазіцыі ў адносінах да расследавання і па-ранейшаму адмаўляецца ўдзельнічаць у любых следчых дзеяннях: не адказвае на пытанні, не знаёміцца з дакументамі і г.д. Апошнім часам умовы ўтрымання Клімава, па словах яго жонкі, сталі нармальнымі — ён знаходзіцца ў камеры, разлічанай на чатыры чалавекі.

*БелаПАН*

## Эканомце «бацькавы» грошы

**Гомельскі аблвыканкам праз газету «Гомельская праўда» звярнуўся да насельніцтва вобласці з прапановай уцяпляць жыллё, эканоміць газ, электрычнасць, ваду.**

Аблвыканкам тлумачыць неабходнасць эканоміі тым, што з-за недахопу паліўна-энергетычных рэсурсаў урад краіны вымушаны набываць газ і нафтапрадукты ў Расіі, *«а это вынуждает отвлекать из бюджета личные финансовые средства»*. Чые асабістыя фінансавыя сродкі ўрад вымушаны «отвлекать», чыноўнікі не ўдакладняюць. Няўжо прэзідэнта?

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Баявыя машыны на вуліцах Гомеля

**У мінулую суботу з нагоды 55-й гадавіны вызвалення Гомеля ўпершыню ў гісторыі ў абласным цэнтры адбылася дэманстрацыя вайсковай тэхнікі.**

На Цэнтральнай плошчы Гомеля сваё майстэрства хадзіць страявым крокам прадэманстравалі гомельскі батальён міліцыі і батальён пажарна-тэхнічнай вучэльні. Сама ж плошча была застаўленая ўзорамі баявой тэхнікі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**




*У рабочых — абедзенны перапынак. Гульня ў «жалезныя шашкі».*

## Рабочыя збіраюцца на вуліцу

**Заўтра ў Мінску пройдзе акцыя пратэсту рабочых, арганізаваная шэрагам галіновых прафсаюзаў.**

Плануецца, што працоўныя збяруцца пасля заканчэння змены каля прахадных сваіх прадпрыемстваў, а потым накіруюцца да Палаца спорту, дзе адбудзецца агульнагарадскі мітынг.

Як паведаміў нам старшыня прафсаюза сельскагаспадарчага машынабудавання Аляксандр Бухвостаў, на кіраўнікоў многіх калектываў, прафсаюзныя арганізацыі якіх збіраюцца ўдзельнічаць у акцыі, аказваецца моцны ціск з боку прэзідэнцкіх структураў. Дырэктарам заводаў пагражаюць звальненнем з працы, калі іхнія работнікі выйдуць на вуліцу.

На мінулым тыдні цікавую тэлеграму ад Замяталіна атрымаў прэзідэнт Акадэміі навук Аляксандр Вайтовіч. У ёй віцэ-прэм'ер папярэджвае, што калі супрацоўнікі акадэміі пойдуць 2 снежня пратэставаць, то іх могуць чакаць непрыемнасці. Напрыклад, урад можа задумацца, а ці варта павышаць вучоным зарплату. Атрымаўшы такое папярэджанне, прэзідыум АН тэрмінова склікаў сход кіраўнікоў навуковых інстытутаў акадэміі, якія бальшынёй галасоў выказаліся супраць удзелу вучоных у акцыі пратэсту. Тым не менш, па словах А.Бухвостава, члены прафсаюза Акадэміі навук будуць удзельнічаць у агульнагарадскім мітынгу.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Нарушителей приказано «немедленно задерживать»

*Распространение на заводах листовок и иных средств массовой информации запрещено*

**На Минском моторном заводе подписан приказ о запрещении распространения на заводе листовок и иных средств массовой информации, которые порождают в коллективе «всевозможные ненужные споры», чем «нарушают Правила внутреннего трудового распорядка объединения».**

Поводом для такого сурового решения послужили случаи «бесконтрольного» проноса на территорию завода различного рода печатных материалов. В частности, листовок Свободного профсоюза металлистов, которые, по словам директора, *«были найдены разбросанными на проходных и в производственных помещениях»*.

Для борьбы «с ненужными спорами» гендиректор издал приказ, в котором запретил *«всем работникам, общественным организациям, находящимся на территории объединения, распространять объявления и печатные или размноженные другим способом средства массовой информации (листовки, газеты, объявления, другие издания) в неустановленных для этого местах, а также разбрасывать их в цехах, помещениях зданий и т. д. на территории ПО ММЗ»*.

Это что касается изданий, официально разрешенных. А самиздатовские материалы не только нельзя «разбрасывать», но и показывать напарнику или сменщику.

Для того, чтобы что-то вывесить в положенном на то месте, необходимо получить письменное разрешение заместителя гендиректора по информации (теперь на заводах есть и такая должность). При этом вывешиваемые СМИ должны содержать только производственную информацию и *«данные от лица, организации (страна) и т. д., издавшем его, а также лица, организации (органа), несущей ответственность за распространение данного документа»*.

Поздравления с Новым годом или, допустим, с прибавлением в семействе члена коллектива, отныне, видимо, запрещаются ввиду их неочевидного отношения к производственной информации. И наоборот, проекты вечного двигателя будут приветствоваться. И в силу того, что авторитет Французской академии наук, запретившей их рассмотрение, у нас невысок, и в силу тщетности попыток ММЗ создать дизель на уровне мировых образцов, напоминающих историю создания вечного двигателя.

Ответственность за соблюдение «информационной тишины» возложена на начальника ВОХровцев тов.Кацкеля. Нарушителей приказано *«немедленно задерживать и доставлять в караульное помещение (вместе с распространяемыми материалами) для составления соответствующих актов»*. Что последует после — лишение премиальных, увольнение, ссылка или каторжные работы, указаний на сей счет нет.

Впрочем, зная заслуги охраны в борьбе с несунами, на полный успех акции администрация не должна рассчитывать. В этом смысле генеральному директору тов.Шавловскому далеко до немецкого капиталиста герра Круппа. У того была не только собственная полиция, но и спецуполномоченные по содержимому корзин в заводских туалетах. Поэтому можно было следить не только за тем, что рабочий читал, но и каким текстом он воспользовался.

**Константин СКУРАТОВИЧ**

*P.S. Как сообщили нам в Свободном профсоюзе белорусском, аналогичные приказы появились на Минском тракторном заводе, на МАЗе и других предприятиях.*

# Нельга прыніжаць

*Леанід КРАЎЧУК, былы прэзідэнт Украіны, адказвае на пытанні нашага аглядальніка Вадзіма КАЗНАЧЭЕВА*




*Першы прэзідэнт незалежнай Украіны Леанід КРАЎЧУК нарадзіўся ў 1934 годзе. Па адукацыі ён эканаміст, кандыдат навук. Пасля заканчэння Кіеўскага універсітэта працаваў выкладчыкам у Чарнавіцкім фінансавым тэхнікуме. У 1960 г. перайшоў на партыйную работу, праз 10 гадоў уваходзіць у рэспубліканскі ЦК.*

*Падчас перабудовы, у 1989 г., становіцца членам саюзнага Палітбюро. У наступным годзе яго абіраюць старшынёю Вярхоўнага Савета Украіны. У 1991 г. на Украіне адначасова праводзіцца рэферэндум аб дзяржаўнай незалежнасці і прэзідэнцкія выбары, у выніку якіх Л.Краўчук стаў на чале новай суверэннай дзяржавы. У 1994 г. ён прайграў датэрміновыя выбары Леаніду Кучме, аднак не пакінуў актыўную палітычную дзейнасць. Цяпер Л.Краўчук узначальвае Дзяржаўную камісію па адміністратыўнай рэформе і з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнай Рады ад адной са шматлікіх сацыял-дэмакратычных партыяў Украіны.*

**— Давайце, Леанід Макаравіч, пачнем гутарку з міжнароднай палітыкі. Як вы ацэньваеце зносіны паміж украінскім кіраўніцтвам і афіцыйным Мінскам?**

— Прэзідэнт Беларусі чамусьці дазваляе сабе надта непаважліва выказвацца наконт нашых крокаў у дачыненні да *NATO*, нашай пазіцыі па канфлікце ў Косаве і іншага. Я разумею, што спадар Лукашэнка не мае ніякага вопыту дыпламатычнай работы, але нават нармальны селянін (калі ён нармальны), проста кіруючыся сялянскай мудрасцю, ніколі не будзе лаяцца на свайго суседа і лезці ў ягоныя справы. Таму мне складана вызначыць, якой мудрасцю кіруецца прэзідэнт Беларусі, даючы безапеляцыйныя ацэнкі ўкраінскім палітыкам і палітыцы.

Дарэчы, гэткім жа чынам Лукашэнка паводзіць сябе і ў паездках па рэгіёнах Расіі. Такое можа сабе дазволіць свабодны журналіст ці, скажам, палітык без «дзяржаўнай шапкі». А прэзідэнт не павінен дазваляць сабе такога. Гэта кепска характарызуе не толькі асабіста яго, але кідае цень і на народ, які ён прадстаўляе. Бо пра народ складаецца ўражанне ў тым ліку і па яго кіраўніках. Я бываў шмат разоў у Беларусі — там жыве цярплівы, разумны, спакойны, таленавіты народ, які любіць сваю зямлю. І нельга абражаць і прыніжаць свой народ такімі нязграбнымі крокамі. Палітыку, тым больш кіраўніку дзяржавы, трэба памятаць, што залішнія эмоцыі, гэтакая разухабістая пазіцыя — маўляў, я магу каму заўгодна сказаць што хачу — прыносіць толькі шкоду. Можна, канешне, на базары ўсё можна. Але міждзяржаўныя адносіны — гэта не таўкучка, а ты не зазывала, а прэзідэнт.

**— Пакуль Лукашэнка застанецца ля ўлады — ці будзе гэта нейк замінаць развіццю беларуска-ўкраінскіх адносінаў?**

— Ведаеце, мы глядзім на гэта даволі паблажліва. Мы бачым, што чалавек няволітны, яму бракуе палітычнай культуры, разумення элементарнай этыкі. Бывае, разумееце, у жыцці такое: толькі паглядзіш на чалавека — і яму даруеш. Як кажуць у народзе, нельга крыўдзіцца на... людзей, якія не разумеюць, што твораць. Таму ў выпадку з беларускім прэзідэнтам, калі ён выскокае і выказваецца, як на калгасным сходзе, за кожным разам дасылаць нейкія ноты, як-небудзь рэагаваць — немэтазгодна, бо гэта проста не заслугоўвае ўвагі.

Я даўно працую ў кіраўніцтве Украіны, і лічу, што адносіны з беларускім народам павінны быць самымі блізкімі, шчырымі і празрыстымі.

**— Лукашэнка неаднаразова выказваў ідэю аб «траістым саюзе славянскіх народаў»: маўляў, Беларусь з Расіяй інтэгруюцца, і няблага б Украіне да гэтай справы далучыцца. Якое ваша стаўленне?**

— Пакуль што ад гэтай інтэграцыі ніякага плёну не відаць. Расія ставіць пытанне ясна: вы хочаце мець адну дзяржаву або дзве? Лукашэнка, як кажуць у Адэсе, хоча жыць «среди тут и между там». Ён шмат гаворыць пра інтэграцыю, скарыстоўвае настальгію па Савецкім Саюзе, — але яму хочацца быць правадыром свайго народа (па ім бачна, што яму падабаецца быць правадыром), а не губернатарам.

Што тычыцца «траістага саюза», дык наколькі Расія — славянская дзяржава? Па складзе насельніцтва Польшча ці Балгарыя больш славянская за Расію. Чаму ж «саюз славян» павінен складацца толькі з трох краінаў? Але рэч не ў гэтым, а ў тым, што замкнёныя саюзы па нацыянальным прынцыпе, па-першае, недаўгавечныя, а па-другое, заўжды могуць спараджаць міжнацыянальныя праблемы.

Таму я не падтрымліваю славянскага саюза. Я — за эканамічнае супрацоўніцтва. Але без дыктату і без панібрацтва. Супрацоўніцтва павінна ажыццяўляцца на аснове раўнапраўя. А не такім чынам, як, напрыклад, былі створаны ў рамках СНД эканамічны камітэт: 50 працэнтаў галасоў — Расія, 50 працэнтаў — усе астатнія. Міжнародны прынцып: адна краіна — адзін голас. Я, памятаю, казаў прэзідэнту Ельцыну: «Што ж гэта за падыход?» А ён: «Ды мы нясем вялікую нагрузку». Ну то і нясіце, не прапануйце тады ніякіх саюзаў, навошта вам яшчэ гэткую бяду на сябе браць?

**— Калі вы кажаце пра ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва, як я зразумеў, гаворка ідзе не пра тое, каб браць пад сумнеў суверэнітэт Украіны?**

— Ні ў якім выпадку. Мы лічым, што пытанне дзяржаўнасці з'яўляецца для Украіны гістарычным. Мы гэты шанец скарысталі, і вяртання да мінулага не будзе. Якія б там ні былі эканамічныя і палітычныя саюзы, ні на грош не павінна быць саступкі ў плане нацыянальных інтарэсаў, нацыянальнай бяспекі і дзяржаўнай незалежнасці. Гэта не таму, што мы такія нацыянальна абмежаваныя. Але з гісторыі вядома, што народ можа быць свабодным толькі ў сваёй дзяржаве, будаваць сваё жыццё, як ён жадае, а не як яму будзе навязваць нехта звонку. А калі кіраўнік дзяржавы ганарыцца тым, што вось, маўляў, які я смелы і рашучы, гатовы аддаць част-

*Ю.Лужкоў:*

## «Нікому не дадзім нас пасварыць»

**У мінулую пятніцу з аднадзённым візітам у Мінску знаходзіўся маскоўскі мэр Юрый Лужкоў са світаю (каля 20 чалавек).**

*«Прычыны, па якіх я сёння тут з вялікай дэлегацыяй, ляжаць не ў палітычнай галіне,* — заявіў мэр Масквы падчас наведвання Мінскага аўтамабільнага завода. — *Я прыехаў не за падтрымкай. Падтрымка патрэбна таму, хто шатаецца або падае. Мы, здаецца, моцна стаім на нагах... Шукаць тут палітыку — значыць займацца дарэмнай працай».* Між тым, па словах маскоўскага мэра, на сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, яны, *«канешне, сякія-такія пытанні абмеркавалі»*, аднак Лужкоў адмовіўся ўдавацца ў падрабязнасці.

Маскоўскі мэр лічыць, што галоўная задача Беларусі і Расіі на сённяшні дзень — *«быць заўсёды разам». «Калі некаму ўдасца нас развесці, загіне і Расія, і Беларусь,* — сказаў Ю.Лужкоў. — *Нікому не дадзім нас пасварыць. У Расіі наш саюз падтрымлівае пераважная большасць насельніцтва. У кіраўніцтве краіны былі тыя, хто выступаў супраць, — Гайдар, Чубайс, Беразоўскі. Зараз іх адставілі».*

**Зміцер САЛАЎ**




*Маскоўскі мэр Юрый Лужкоў і старшыня Мінскага гарвыканкама Ўладзімір Ярмошын на сустрэчы з рабочымі МАЗа.*

ДАГЕРРОТИП

# От Пиночета до... Ярузельского?

**Семен БУКЧИН**

«Дело Пиночета» занимает первые полосы польских газет. Вещь понятная. Польша трудно расстается со своим прошлым, точнее, преодолевает его, ищет новые смыслы и акценты для наиболее справедливых оценок. Свидетельством тому и прохождение закона о люстрации, и судебные процессы, связанные с убийствами и преследованиями «шагавших не в ногу» людей во времена ПНР.

В тот вечер, когда стало известно о решении английской палаты лордов, признавшей, что на генерала Пиночета не распространяется дипломатический иммунитет и его арест произведен в соответствии с законом, корреспондент второго канала Польского телевидения позвонил генералу Ярузельскому. Было совершенно очевидно, что первый вопрос задан, что называется, для проформы: «Как вы оцениваете вердикт британских лордов?». Ярузельский, конечно же, прекрасно понимал, что последует дальше, но тем не менее от интервью не отказался. Последний коммунистический правитель и экс-президент Польши в переходный период сказал, что если по британским законам арест Пиночета правомерен, значит так оно и должно быть. Никакого сочувствия ни возрасту, ни болезням бывшего чилийского диктатора...

И тогда последовал вопрос, ради которого, собственно, и было все затеяно: «Не опасается ли пан генерал, что в случае его выезда за пределы Польши он, подобно Пиночету, может быть арестован по инициативе или живущих за рубежом поляков, чьи родственники пострадали во время его правления, или каких-то международных организаций, отстаивающих права человека? Наконец, суд над ним может состояться и в самой Польше...»

Надо отдать должное, Ярузельский не дрогнул. Хотя голос был слаб, генерал сейчас болеет. Впрочем, то, что он сообщил, было уже известно по его показаниям на идущих в последнее время судебных процессах по делам о преследовании и гибели людей, выражавших несогласие с режимом в годы его правления. Ярузельский считает, что действовал в соответствии с конституцией, что возможные тогдашние нарушения закона связаны с действиями конкретных руководителей и что если ему будет предъявлено обвинение в непосредственной причастности к этим нарушениям, то он готов отвечать перед законом.

Отвечать перед законом в нынешней Польше теперь приходится и за уже давние дела послевоенной поры, и за то, что творила власть в 80-е годы... На днях воеводский суд во Вроцлаве в третий раз возобновил слушания по делу трех милиционеров, обвиненных в убийстве демонстрантов в Люблине в 1982 году. Идет нешуточная борьба. Обвинение поступило в суд в 1992 году. Летом этого года следствие было прекращено на основании амнистии для политических заключенных 1984 года. Родственники убитых на улицах Люблина обратились в Апелляционный суд... Дело начинает слушаться с самого начала.

«Дело не в мести, дело в справедливости», — сказал мне знакомый юрист.

Поляки ищут справедливости. Поэтому «дело Пиночета» для них знаковое. «Не преследовать палача» — с таким призывом выступил после первого известия об аресте Пиночета известнейший общественный деятель, редактор «Газеты Выборчей» Адам Михник. Ему горячо возражали на страницах его же газеты. Не осудить зло — значит примириться с ним? — вопрошали читатели.

Чилийский опыт, польский опыт... Мир не желает мириться со злом...

А наши «вершители судеб» по-прежнему надеются, что «время спишет...» Потом они будут повторять те же слова: «Такое время было... Мы выполняли приказы...»

Что ж, Пиночет тоже не лично расстреливал людей и тащил их в тюрьмы...

*Варшава*

# свой народ

ку суверэнітэта, калі ён не паважае нацыянальную мову і культуру — гэта гістарычны нонсэнс.

**— Вы цяпер не кіраўнік дзяржавы — і можаце сабе дазволіць выказацца наконт унутранай палітыкі, якая праводзіцца ўладамі Беларусі.**

— Я заўважыў, што Лукашэнка крытыкуе рынак, выступае за планавае вядзенне гаспадаркі, сацыяльную роўнасць і г.д. Але сваю ўладу ён добра скарыстоўвае для паляпшэння ўласнага дабрабыту за дзяржаўны кошт. Беларускі народ, на жаль, жыве бедна. А Лукашэнка мае некалькі рэзідэнцыяў, на «Волзе» не ездзіць і рэйсавымі самалётамі не лётае. Прэзідэнт Турцыі нядаўна наносіў візіт на Украіну менавіта на рэйсавым самалёце — а Турцыя ж багацейшая за Беларусь. Словы адны, а справы зусім іншыя. Людзі ж не сляпыя, павінны бачыць гэты фальш і разумець гэтую гульню. Але ідзе абалваньванне беларускага народа, які паверыў, што «бацька» абараняе яго.

Беларусь выгналі з Савета Еўропы, зрабілі беларускіх чыноўнікаў «персонамі нон грата». Для цывілізаваных грамадзянаў Беларусі, я мяркую, гэта глыбокае прыніжэнне. Для кіраўніка дзяржавы — тым больш. І калі ён гэтага не разумее — значыць, ён не дарос да лідэра, а народ, абраўшы яго, дапусціў памылку. Кажуць, быццам «народ не памыляецца» — гэта няправільная формула ў прынцыпе. Колькі мы бачылі, як ён памыляецца ў самых розных краінах. Дык што ж, памылкі трэба выпраўляць.

**— Але нават сапраўды дэмакратычныя выбары яшчэ не сведчаць пра наяўнасць дэмакратыі. Дэмакратыя — гэта ж не толькі, што большасць прагаласавала. Гэта яшчэ і магчымасць беспераШкодна выказваць свой пункт гледжання апанентам, не асцерагаючыся ніякіх рэпрэсіяў, і яшчэ многія рэчы, якіх, на жаль, у нас няма.**

— І на Украіне таксама гэтая новая дэмакратыя шмат у чым выклікае ў мяне глыбокае расчараванне. Трэба прайсці яшчэ многа, каб пра гэта пісалі, гаварылі, вучылі ў школах. Урэшце, павінна змяніцца пакаленне. Цяперашняе пакаленне нясе на сабе ўсе рысы былога ладу, былой ідэалогіі, і яно не ў стане вызваліцца ад гэтага, каб дэмакратычныя прынцыпы ўзялі верх. І да ўлады павінны прыйсці людзі іншай генерацыі.

У тым і сутнасць дэмакратыі, каб кожны мог выказаць свой пункт гледжання, нават калі большасць з гэтым нязгодная. Калі меншасць падаўляецца большасцю — гэта ўжо не дэмакратыя. Таксама не дэмакратыя — калі над кіраўніком няма ніякага кантролю, акрамя яго самога, калі ягонае самадурства нічым не абмежаванае. Гэта вельмі небяспечная рэч. Уладам нешта не падабаецца — забараніць! закрыць! пасадзіць! Калі нават гэтыя ўлады і абраныя большасцю — якая ж тут дэмакратыя? Іншая рэч, што крытыка павінна быць без абразаў — гэта нікога не ўпрыгожвае.

**— Разумееце, калі гаворка ідзе пра Беларусь, дык пэўныя рэакцыі ў адрас Лукашэнкі — гэта рэакцыя ў адказ. Сам Лукашэнка не ўмее прыстойна паводзіць сябе ў адносінах да апанентаў — таму ім таксама часам цяжка ўтрымацца ў рамках.**

— Я разумею — часам прыстасоўваешся да апанента, плаціш яму той жа манетаю. Калі ты бачыш, з кім маеш справу, дык сыпаць бісер перад свіннёю не хочацца. Але хтосьці павінен быць разумнейшым, хтосьці павінен спыніцца і праявіць культуру, высока ўзняць духоўную планку. Тым больш, што і беларуская, і ўкраінская, і руская мовы — вельмі багатыя, і колькі ёсць слоў, якімі можна і моцна ўдарыць, і высмеяць. А да ўзроўню базарнай сваркі апускацца не варта.

Я таксама мушу весці дыскусіі са сваімі апанентамі, і заўсёды стараюся рабіць гэта на прыстойным узроўні. Часам зрываешся — бо вакол лямант, абразы, на цябе глядзяць жудаснымі вачыма, у якіх не бачна ніводнай іскрынкі думкі, а толькі дзікунскія інстынкты ды злосць. Але людзі, якія ўзялі на сябе адказнасць будаваць дэмакратычную, цывілізаваную, прававую дзяржаву, павінны вырашаць гэтую задачу рознымі сродкамі — у тым ліку і манераю весці дыскусію, нягледзячы ні на якія цяжкасці. Тады і народ не будзе выбіраць прэзідэнтамі людзей, на якіх сорамна глядзець.

**— Пракуратура Беларусі прапанавала ўнесці асобны артыкул у Крымінальны кодэкс — аб абароне гонару і годнасці прэзідэнта. Абвостранае ўспрыманне ўласнай недатыкальнасці.**

— Калі я быў прэзідэнтам, колькі разоў у зале парламента прапаноўвалі ўвесці гэткі ж артыкул на Украіне! Я быў катэгарычна супраць. Чаму ж гэта аднаго чалавека асобна абараняць? Што, прэзідэнт — гэта цар і Бог? З падобных прычаў вырастае ўсё астатняе. Кожнае слова можа быць выпрабаванае на той прадмет, ці абражае яно прэзідэнта. Тым больш ва ўмовах, калі няма незалежнага суда, калі суддзі кіруюцца дырэктывамі. Далей застаецца хіба што помнікі пры жыцці ставіць.

**— Як на вашую думку: ці можна сказаць, што курс Украіны ў еўрапейскія структуры, на рынкавую эканоміку, дзяржаўную незалежнасць — ужо незваротны? Я нядаўна сустракаўся з «левымі» дэпутатамі Вярхоўнай Рады, якія становуча ацэньвалі ідэю рэстаўрацыі Савецкага Саюза ў той ці іншай форме. А парламент у вас цяпер досыць «чырвоны».**

— Абсалютнай большасці ў парламенце ў «чырвоных» няма. Гэта выключана, каб яны перамаглі пры вырашэнні такіх кардынальных пытанняў.

**— Але ж гэта рэч хісткая. Ну, адбудуцца наступныя выбары, і раптам камуністы атрымаюць большасць. Ці сацыяліст Аляксандр Мароз стане прэзідэнтам...**

— Усё адно гэты курс незваротны. Ужо часткова ўтварыўся сярэдні рынкавы клас. Гэта слой людзей, якія маюць уласнасць, распараджаюцца і карыстаюцца ёю. Ужо прайшла малая і сярэдняя прыватызацыя, зараз ідзе вялікая. Мы ўвайшлі ў еўрапейскія структуры, падпісалі шэраг пагадненняў з NATO. На падставе і ўнутраных пераўтварэнняў, і знешняга кантэксту я магу ўпэўнена сказаць, што небяспекі страты незалежнасці няма і павароту ад Еўропы, ад рынкавай эканомікі — назад да камунізму — не адбудзецца.

Калі прэзідэнтам стане Мароз, ён можа пайсці на саюз з Расіяй, але зусім не на такі, як Лукашэнка. Ён паспрабуе пашырыць сувязі, заключыць нейкія пагадненні. Але не пойдзе на саюз з пагрозай для незалежнасці і нацыянальнай бяспекі. І гэта не з прычыны ягоных пераканання. Проста кожны, хто хаця трохі арыентуецца ў сітуацыі, разумее, што паварот у палітыцы, пра які вы казалі, прывядзе на Украіне да канфлікту вельмі вялікага маштабу з цяжкімі наступствамі.

*Гутарыў*
**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**



*Сумеснае распіццё шампанскага з прэзідэнтам Украіны Л.Кучмам не перашкаджае А.Лукашэнку рабіць грубыя выпады на адрас украінскага кіраўніцтва.*

*Рэдакцыя выказвае падзяку Украінскаму незалежнаму цэнтру палітычных даследаванняў за садзейнічанне ў арганізацыі сустрэчы з Л.Краўчуком.*

*1 снежня — Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу*

# Крыніца хваробы — нестэрыльны шпрыц

## У Беларусі ВІЧ-інфекцыя ад наркаманаў пачала распаўсюджвацца на іншыя сацыяльныя групы




**Праблема барацьбы з невылечнай хваробай надзвычай актуальная і для Беларусі: сёння ў нашай краіне афіцыйна зарэгістраваны 2.291 носьбіт ВІЧ-інфекцыі.**

У сапраўднасці ж ВІЧ-інфіцыраваных значна больш. Напрыклад, заходнія спецыялісты лічаць, што для атрымання рэальнай лічбы трэба як мінімум памножыць колькасць выяўленых ВІЧ-інфіцыраваных у дзесяць разоў.

Па словах галоўнага ўрача Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІД Валерыя Глазоўскага, носьбіты віруса імунадэфіцыту выяўлены ў 70 раёнах Беларусі. Першае месца ў гэтым спісе займае горад Светлагорск, дзе жыве 1.175 ВІЧ-інфіцыраваных. Лідэрам жа сярод беларускіх абласцей па колькасці зарэгістраваных выпадкаў заражэння СНІДам з'яўляецца Гомельская (1.796 чалавек). Далей ідуць Мінск (234 выпадкі), Брэсцкая вобласць (75), Магілёўская (70), Мінская (37) і Віцебская (34). Найменшая колькасць зарэгістраваных носьбітаў СНІДу ў Гродзенскай вобласці (11 чалавек).

Тым не менш, па словах В.Глазоўскага, у краіне намецілася тэндэнцыя да зніжэння распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі. Так, калі па выніках 1996 года быў зафіксаваны 1.021 выпадак заражэння ВІЧ, то ў 1997 годзе выяўлена 650 новых вірусаносьбітаў, а па выніках гэтага іх колькасць, згодна з прагнозамі спецыялістаў, дасягне 540—550 чалавек. В.Глазоўскі адзначыў, што такая статыстыка не павінна заспакойваць, таму што можа не адлюстроўваць сапраўднага становішча справаў.

Асноўную групу рызыкі складаюць наркаманы. Аднак, ВІЧ-інфекцыя шляхам палавых кантактаў пачала распаўсюджвацца на іншыя сацыяльныя групы.

Насуперак распаўсюджанай думкі, гомасексуалісты ў Беларусі не ўваходзяць у асноўную групу рызыкі. Валерый Глазоўскі сказаў, што прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў сексуальных меншасцяў самі праводзяць прафілактыку СНІДу, дзякуючы чаму за апошнія тры гады сярод геяў быў выяўлены толькі адзін носьбіт віруса.

Немалую дапамогу ў прафілактыцы захворвання аказвае прадстаўніцтва ААН у Беларусі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*Мінск*

## Шоу зорак сусветнай гімнастыкі

**16 снежня ў мінскім Палацы спорту адбудзецца першае ў Беларусі шоу зорак сусветнай гімнастыкі.**

У шоу возьмуць удзел выдатныя гімнасты Беларусі, Украіны, Расіі, Польшчы і Швецыі, у тым ліку Святлана Багінская, Іван Іванкоў, Святлана Хоркіна, Ларыса Лук'яненка, а таксама зборная Беларусі, якая завявала сёлета залатыя медалі ў групавых практыкаваннях на чэмпіянаце свету па мастацкай гімнастыцы ў Севільі (Іспанія).

Трансляцыю шоу будуць ажыццяўляць тэлерадыёкампанія Беларусі і канал «НТВ-плюс. Спорт». Па словах арганізатараў, кошт уваходных білетаў будзе сімвалічным.

Напярэдадні, 15 снежня, у Палацы спорту пройдзе розыгрыш Кубка Беларусі па мастацкай гімнастыцы з удзелам усіх мацнейшых спартсменак краіны.

*БелаПАН*



## И на бедных можно делать бизнес

**Новую сеть фирменных мастерских по обслуживанию автомобилей намерен открыть германский автогигант «Фольксваген».**

Она будет ориентирована главным образом на людей невысокого достатка, которые приобретают, как правило, подержанные автомобили старше четырех лет. Планируется на всей территории страны развернуть более 200 ремонтных предприятий, действующих по принципу «Стоп энд гоу» («Остановись и поезжай»). Главное их отличие от крупных сервисных центров — минимум персонала и возможность устранить незначительную неисправность в течение получаса. Причем — по более низкой цене, но с гарантией «Фольксвагена».

Новые фирменные мастерские должны составить конкуренцию безродным предприятиям, которыми заправляют обычно проживающие в ФРГ иностранцы. На автомобили они ставят подделки, контрабандно ввезенные из стран «третьего мира».

Однако не только забота о малоимущих и о репутации собственной марки движет «Фольксвагеном», замечает Олег Артюшин (Бонн). Оборот новой сервисной сети после ее выхода на заданный уровень оценивается в два с половиной миллиарда марок в год.

## Убойная синтетика

**Новые синтетические наркотики появились на европейских «черных рынках».**

Эффект от их применения в 33 раза превышает воздействие на человеческий организм хорошо известного «экстази», считающегося достаточно безобидным. По информации спецподразделений по борьбе с организованной преступностью МВД Великобритании, употребление некоторых из новых средств может привести к летальному исходу. В этом году в Великобритании они уже стали причиной смерти трех человек. МВД опасается, что часть преступников, специализировавшихся ранее на краже оружия и перевозке кокаина, сейчас полностью перепрофилировалась на изготовление синтетических наркотиков убойной силы. Главная проблема состоит в том, что покупатели, соблазняясь более низкой ценой «синтетики», понятия не имеют об особенностях «нового экстази».

## Китай дружит с умными

**Китай активно использует для своего развития интеллектуальный потенциал других стран.**

Знания зарубежных специалистов эффективно применяются в реализации важных государственных проектов. Начиная с 1993 года Китай ежегодно приглашает на работу по 70 тысяч иностранцев. Согласно официальным данным, с их помощью было подготовлено более 80 тысяч преподавателей, 100 тысяч магистров и докторов наук, созданы сотни научных лабораторий. Китайское правительство ежегодно отмечает зарубежных экспертов, работающих в стране, «Премией дружбы»: ее уже получили 419 человек.

## Умные унитазы

**Крупная японская компания Тото, которая занимается выпуском сантехники, будущей весной представит своим клиентам «умные унитазы».**

Помимо исполнения своей основной прозаической функции, новинка будет делать анализ мочи, данные которого сохранит в своей памяти.

Первыми на рынок будут выброшены изделия для диабетиков, которые измеряют уровень сахара в крови. А уже сейчас фирма начала продажу переносных туалетов стоимостью 11 тысяч йен, помещающихся в сумке или кейсе. Только в Токио каждый месяц раскупают 10 тысяч таких «мобильников». Кроме того, фирмой Тото более трети домов оснащены моющими унитазами.

*По сообщениям информационных агентств*

# Даты і лёсы

### 1 снежня

**1618.** У выніку паспяховага пахода на Маскву каралевіча Уладзіслава Вазы, які меў тытул «цара маскоўскага і ўсяе Русі», было падпісанае Даўлінскае замірэнне. Да Вялікага княства Літоўскага адышло 29 гарадоў, у тым ліку Смаленск і Чарнігаў, а Уладзіслаў пацвердзіў свае фармальныя правы на маскоўскі прастол (адмовіўся ад іх толькі ў 1634 г.).

**1640.** Партугалія выгнала іспанскіх акупантаў і зноў была абвешчаная незалежным каралеўствам.

**1761.** У Страсбургу нарадзілася Марыя Гросхальц, больш вядомая як мадам Цюсо. Падчас французскай рэвалюцыі яна рабіла злепкі-маскі з адсечаных на эшафоце галоваў вядомых рэвалюцыянераў і арыстакратаў. У 1800 г. мадам Цюсо пераехала са сваёй калекцыяй у Англію і заснавала ў Лондане знакаміты музей васковых скульптураў.

**1887.** Артур Конан-Дойл надрукаваў першае апавяданне пра Шэрлака Холмса «Эцюд у пунсовых танах».

**1898.** Дацкі інжынер Вальдэмар Поульсен запатэнтаваў першы магнітафон (замест стужкі ў ім скарыстоўваліся струны для фартэпіяна).

**1923.** У Мінску адчынілася Генеральнае консульства Польшчы.

**1953.** Выйшаў першы нумар знакамітага часопіса для мужчын *Playboy*. У якасці цэнтральнай гераіні першага нумара фігуравала аголеная Мэрылін Манро.

**1973.** Памёр першы прэм'ер-міністр Ізраіля Давід Бен-Гурыён ***(на здымку)***.

**1982.** У лякарню Каліфарнійскага універсітэта паступіла 24-гадовая студэнтка, якая кепска арыентавалася ў прасторы, але была ў поўнай свядомасці. Дзяўчына мела рэкордны ўзровень алкаголю ў крыві — 15,1 г на літр, што ў тры разы вышэй за смяротны ўзровень. І што? Праз два дні яе выпісалі!

**1988.** Вярхоўны Савет СССР унёс змены ў Канстытуцыю краіны і прыняў новы Закон аб выбарах. Грамадзянам упершыню было дазволена выбіраць адразу некалькі кандыдатаў у дэпутаты. Трэцюю частку народных дэпутатаў СССР прадугледжвалася выбіраць ад грамадскіх арганізацыяў.

### 2 снежня

**1905.** Царскі ўрад гарантаваў права рабочых на страйкі (апрача палітычных). Крымінальны перaслед страйкаўцаў быў забаронены.

**1906.** Нарадзіўся амерыканскі вынаходнік доўгайгральных кружэлак (1948) Пітэр Голдмарк. У 1950 г. ён вынайшаў таксама сканіруючую сістэму, з дапамогай якой потым былі зробленыя і перададзеныя са спадарожніка на Зямлю здымкі адваротнага боку Месяца.

**1942.** Пачалася атамная эра: пры Чыкагскім універсітэце пачаў дзейнічаць першы атамны рэактар, у якім пад кіраўніцтвам Энрыка Фермі і Артура Комптана ўпершыню паспяхова пайшла ланцуговая рэакцыя атамных ядраў.

**1982.** У медычным цэнтры універсітэта штата Юта адбылася першая імплантацыя штучнага сэрца. Пацыент — дантыст Барні Кларк — пражыў з ім некалькі месяцаў і памёр у сакавіку 1983 г.

### 3 снежня

***Міжнародны дзень інвалідаў.***

**1883.** Нарадзіўся вядомы нямецкі кампазітар Антон фон Веберн, большасць твораў якога напісаная ў памяць пра маці. У 1945 г. быў выпадкова застрэлены амерыканскім патрулём.

**1910.** У Парыжы адчынілася аўтамабільная выстава, дзе ўпершыню запаліліся неонавыя лямпы дзённага святла, вынайдзеныя французскім фізікам Жоржам Клодам.

**1921.** Адчынілася Беларуская рэспубліканская кантора Дзяржаўнага банка РСФСР (з 1991 г. — Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь).

**1923.** Нарадзілася знакамітая грэчаская спявачка, яшчэ пры жыцці ўзнагароджаная тытулам «багіні оперы» Марыя Калас ***(на здымку)***. Неўзабаве пасля смерці прымадоны ў 1977 г. яе парэшткі былі скрадзеныя з парыжскіх могілак Пер-Лашэз, але потым знойдзеныя. Каб прадухіліць новыя спробы крадзяжу, цела былой каханкі мільярдэра Анасіса спалілі, а попел развеялі над Эгейскім морам.

**1925.** Па загаду ЦК КП(б)Б з рэпертуару Беларускага дзяржаўнага тэатра была знятая п'еса Я.Купалы «Тутэйшыя», бо яна прапагандавала ідэі «нацыянал-дэмакратызму».

**1928.** Нарадзіўся вядомы беларускі мастак і дызайнер сцэнічных нацыянальных касцюмаў Лявон Баразна. Загадкава загінуў у 1972 г. (па адной з версіяў — быў забіты спецслужбамі за дысідэнцкую дзейнасць).

**1971.** Амерыканскі пілот Элген Лонг упершыню абляцеў вакол Зямлі праз яе полюсы. За 215 гадзінаў ён праляцеў 62.597 км. Падчас палёту над Антарктыдай тэмпература ў кабіне двухматорнага самалёта апускалася да -40°С.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Юрыдычны адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1267 Нумар падпісаны ў друк 30/11/98 (15:00) Наклад — 18.000